● ПАСЛЯСЛОЎЕ

# СУМЕСНА ІСНАВАЦЬ У РАБСТВЕ — НЕ ЗНАЧЫЦЬ БЫЦЬ РАЗАМ З НАРОДАМ

МАКСІМ ГРЭК, «ДВ».

Мы паведамлялі ўжо аб III з'ездзе Беларускага народнага фронту. Сёння хочацца паглядзець на з'езд ды на дзейнасць Фронту больш абачліва і ўзважана, прааналізаваць тыя з'явы і працэсы, якія характарызуюць адзін з уплывовых апазіцыйных рухаў краіны.

Перш за усё спынімся на абвінавачванні Фронту ў «пошуку ворагаў». Мы, пэўна, да такой ступені запалоханы сталінскім выразам «вораг народа», што надта ж баімся самога слова «вораг».

І, баючыся знайсці ворага, мы самім сабе адмаўляем у праве спасцігнуць простую думку — у любой палітычнай ідэі ёсць ідэя супрацьлеглая, а значыць, ёсць яе носьбіты — палітычныя апаненты. Калі з'яўляюцца апаненты дзяржаўнай ідэі (не ў плане ідэалогіі дзяржавы, а як праціўнікі існавання гэтай дзяржавы), і гэтыя апаненты з'яўляюцца грамадзянамі гэтай дзяржавы і карыстаюцца яе дабротамі, такіх асоб любая краіна назвала б здраднікамі. Здраднікі пры сіле, здраднікі, здольныя нанесці вялікую шкоду — ворагі, і ні адзін крымінальны кодэкс гэтага не адмаўляе.

Іншая справа, што ў галіне ідэалогіі няма гаворкі пра тое, каб ворагі знішчаліся. Гэта і сапраўды, давайце пакінем спарахнеламу прывіду Сталіна. Але бараніцца ад ворагаў, супрацьстаяць ім, метадамі цывілізаванай парламенцкай і выбарчай барацьбы адключаць ад улады і дзяржаўнага панавання — з'ява абсалютна натуральная. Больш таго, яна куды больш натуральная, чым палахлівае засоўванне галоўкі пад крылца з ціхім енкам «ворагаў у нас няма, проста таварышы памыляюцца». І таму асабіста я вельмі станоўча стаўлюся да людзей, якія адкрыта называюць сваіх ворагаў і адкрыта супрацьстаяць ім.

Зрэшты, каб зразумець сутнасць Фронту, яго «погляды на жыццё», было дастаткова ўважліва выслухаць справаздачны даклад старшыні БНФ З.Пазьняка «Беларускі народны фронт і развіццё палітычных працэсаў на Беларусі».

«Мінула два гады з нашага другога з'езда, — зазначыў, у прыватнасці, лідэр Фронту. — Тады гаварылася, што мы адарваліся ад мас, забеглі далёка наперад, што народ не гатовы ўспрымаць ідэі БНФ. Гэта было нядаўна, гэта было даўно. Так, спадары, мы тады адарваліся, мы абагналі самі сябе. А што было б, каб мы не перагналі? Тады Фронт не быў бы Фронтам. На мой погляд, у той падсавецкай і гэтай посткамуністычнай Беларусі, дзе пануе каланіяльная псіхалогія і народ ашуканы, палітычны рух, які не ідзе наперадзе, да чалавечай годнасці і народнай свабоды, — такі рух увогуле непатрэбны. Сумесна існаваць у рабстве — гэта не значыць быць разам з народам. Такое існаванне брыдкае. Ідуць за тым, хто сам ідзе. Мы наракаем на апатычнасць ці нацыянальна-культурную індыферэнтнасць грамадства. Але мы паставілі задачу дапамагаць нашаму народу ў яго адраджэнні і развіцці. Мы разумеем, што дзесяцігоддзі калгаснага ладу і савецкая рэчаіснасць не праходзяць бясследна. Нашае грамадства хворае. Яно як той гарбаты, сагнуты ў дугу чалавек, якога нейкімі цудадзейнымі сродкамі спрабуюць разагнуць, але ён супраціўляецца. Ён прывык быць сагнутым. І калі разгінаецца — яму баліць. Ён праклінае такое лячэнне. Але ж іншага спосабу адраджэння, як выпрастацца і стаць народам — няма».

Абсалютна слушна лічачы, што іншага шляху, акрамя як разагнуцца, для Беларусі ўсё ж не існуе, з'езд прыняў новую Праграму Фронту.

Беларускі народны Фронт, як падкрэсліваецца ў праграмме, — не «левы», і не «правы». Гэта — народны рух палітычнага цэнтра, уся грамадска-палітычная актыўнасць якога скіраваная да свабоды, што мае на ўвазе стварэнне грамадзянскай супольнасці, забеспячэнне правоў чалавека і самавызначэнне народу, да незалежнасці — мацавання ды абароны дзяржаўнасці Беларусі ад любых замахаў — ды адраджэння, ці, інакш кажучы, кансалідацыі беларускай нацыі праз яе нацыянальна-культурнае самаўсведамленне і духоўнае адраджэнне на падставе адвечных маральных каштоўнасцей.

У галіне эканомікі выступае за сацыяльную рынкавую эканоміку, інакш кажучы, за такую эканоміку, якая кіруецца выключна рынкавымі законамі. Пры гэтым за дзяржавай застаецца права і абавязак абараняць свабоду канкурэнцыі з аднаго боку і ствараць меры сацыяльнай дапамогі і падтрымкі тым колам насельніцтва, якія маюць у гэтым патрэбу, з мэтай дасягнення рэальнай сацыяльнай справядлівасці.

Насуперак распаўсюджаным меркаванням, фронтаўскія эканамісты абсалютна не супраць існавання СНД, але ўдзел Беларусі ў Садружнасці ставіцца імі ў прамую залежнасць ад прыняцця краінамі СНД пагадненняў аб недапушчальнасці пратэкцыяніcцкай палітыкі да сваіх прадпрыемстваў, аб валютным саюзе і міжбанкаўскім пагадненні, аб бяспошлінным гандлі, аб пастаўках, аб вольным руху капіталаў, тавараў, паслуг і г.д. У іншым выпадку Фронт не бачыць сэнсу ўдзельнічаць Беларусі ў Садружнасці.

З усяго гэтага можна зрабіць вывад: Фронт перажывае сур'ёзныя змены. Перш за ўсё выявілася, і гэта асабліва моцна адчувалася ў прамовах З.Пазьняка, Ю.Хадыкі, цяга лідэра Фронту да кансерватызму, як ідэалогіі, як да сістэмы поглядаў і дзеянняў. Што ж, нічога дзіўнага ў тым няма, тым больш што Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць (адзіная кансерватыўная партыя на Беларусі) яўна не сабрала пад сваімі сцягамі ўсіх прыхільнікаў гэтай ідэалогіі.

А пакуль лідэр апазіцыйнага дэмакратычнага руху яднае ў сваіх шэрагах прадстаўнікоў самых розных ідэалогій (сярод дэлегатаў з'езда былі сябры Сацыял-дэмакратычнай Грамады, Сялянскай партыі, Нацыянал-дэмакратычнай, Аб'яднанай дэмакратычнай і Хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці).

Праграма Фронту ўжо сёння набывае рысы праграмы партыі, і партыя на з'ездзе была створана!

Праўда, Зянон Пазьняк назваў яе ўсяго толькі «юрыдычным парасонам», які дазволіць Фронту прымаць удзел у выбарах на той выпадак, калі грамадскім рухам выбарчае заканадаўства забароніць вылучаць сваіх кандыдатаў.

Але ў такой пазіцыі, мне здаецца, замнога ідэалізму. І нейкае пацвярджэнне таму прыйшло... з-за мяжы. Народны рух Украіны, аказваецца, ужо зарэгістраваны як палітычная партыя. Аб гэтым паведаміў на прэс-канферэнцыі лідэр НРУ Вячаслаў Чарнавіл. Вітаўтас Ландсбергіс, які сядзеў падчас той жа прэс-канферэнцыі пад цікавай шыльдачкай «Старшыня партыі «Саюз Айчыны» (Летува)», таксама распавёў пра стварэнне на базе «Саюдзіса» новай палітычнай партыі, старшынёй каторай ён і стаў.

Гэта ўсё сведчыць, што працэс незваротны. Распад магутных апазіцыйных антытаталітарысцкіх рухаў на асобныя дэмакратычныя партыі настолькі ж заканамерны, як распад імперыі на незалежныя дзяржавы. Што, аднак, гэтак жа не адмаўляе ўдзелу новых партый у агульных блоках (падчас выбараў, напрыклад), як удзел незалежных краін у нейкіх садружнасцях (накшталт СНД).

А таму, яшчэ раз падкрэслю, Фронт можа заставацца Беларускім народным фронтам толькі ў выпадку адмаўлення ад ідэалагічных прыярытэтаў, абмежаваўшыся агульнадэмакратычнымі прынцыпамі і прынцыпам поўнага і безагаворачнага суверэнітэту і незалежнасці Беларусі. Сведчанне таму, дарэчы, было і на самім з'ездзе, калі раптам, на абсалютна нічога не вырашальным месцы праграмы (там, дзе падкрэслівалася важнасць кіравання хрысціянскімі прынцыпамі маральнасці), дэлегаты падзяліліся на два лагеры, якія так і не знайшлі кампрамісу. Усё тлумачыцца проста — гэтак жа, як хрысціянскім дэмакратам Пазьняку і Хадыку немагчыма адмовіцца ад слова «хрысціянскі», так прадстаўнікам іншых партый у Фронце, а таксама іншых рэлігійных канфесій, гэтае слова ў праграме непатрэбна. Званочак празвінеў, але яго хуценька засунулі ад граху далей у рэдакцыйную камісію. Толькі ён яшчэ, я ўпэўнены, зазвініць.

А сёння Фронт застаецца Фронтам, самай уплывовай, аўтарытэтнай і моцнай апазіцыйнай сілай на Беларусі. Гэта, зрэшты, адзіная арганізацыя, якая можа рэальна супрацьстаяць «партыі Саўміна» і партыі камуністаў. Трэці з'езд, безумоўна, умацаваў Беларускі народны фронт і, трэба спадзявацца, яго дэлегаты прыкладуць нямала намаганняў у актывізацыі чарговага палітычнага ўсплёску, які набліжаецца ў краіне.

Памятаеце Леніна: «Вярхі не могуць, нізы не жадаюць». У сённяшняй амаль рэвалюцыйнай сітуацыі вельмі важна, хто ж акажацца болей падрыхтаваны, каб падняць уладу. Дэмакратычныя плыні, якія яднаюцца ў фронце, становяцца адзінай сілай, якая без крыві і рэвалюцыйных згрызот, шляхам талерантнасці і цывілізаванай эвалюцыйнай барацьбы здольная павесці народ Беларусі да лепшай долі, да рэальна багатай дзяржавы, да волі і самараскрыцця кожнай асобы. А тыя невялікія палітычныя тонкасці, праз якія прыйдзецца прайсці Фронту дзеля ўласнага самавызначэння, спадзяюся, толькі ўмацуюць беларускі дэмакратычны рух.

● ПО РЕСПУБЛИКЕ БЕЛАРУСЬ

## Ранние браки, запоздалые слезы...

Три десятка юношей и девушек Орши получили с начала года разрешение на снижение брачного возраста с законных 18 до 17, 16 лет. Однако работников загса этот факт не радует. Основная причина «молодых» браков — ранние половые связи. Как правило, вместе с заявлением молодожены приносят справку о беременности.

## «Квітнее Глыбоччына» на Троицу

В Глубоком прошел традиционный праздник «Квітней, Глыбоччына!». В этом году он совпал с христианской Троицей. На проведение торжества в Глубокое приехал фольклорный коллектив из города Столбцы и ансамбль «Сябры». На открытии праздника с проповедью выступил благочинный Глубокской церкви С.А.Гоголушко.

## Не помиловали ксендзов

Впервые на одном из центральных кладбищ города Лиды прошло полевое богослужение. Это дань памяти девяти погибшим ксендзам и всем погибшим от рук фашистских захватчиков.

Во время войны, в 1943 году, гитлеровские палачи увезли 9 ксендзов из лидской тюрьмы по улице Сырокомли (теперь Ленинская) к сосновому бору, где их расстреляли. Лишь спустя 15 лет прихожане перевезли тела погибших с места расстрела на центральное кладбище. Теперь здесь поставлен памятник.

## Только две весны «прослужили» итальянские машины

Всего два года поработали на Брестском чулочном комбинате итальянские машины для производства женских колготок. Теперь руководство комбината предлагает 10 комплектов полученного оборудования заинтересованным лицам. Причин для продажи по меньшей мере две: нехватка сырья и имеющаяся в достаточном количестве собственная техника. Интерес к итальянским машинам уже проявляют коммерсанты из ближнего зарубежья, но правительство РБ настойчиво рекомендует не вывозить это имущество из республики.

## Невеселые выходные

На четырехдневный режим работы перешел один из гигантов индустрии республики — Гомельское ПО сельскохозяйственного машиностроения. Поэтому в пятницу многие сельмашевцы отправились на дачи, некоторые уехали на рыбалку, в другие места отдыха. Вот только не очень-то радуют такие выходные. Как будем жить завтра?

По сообщениям РИД.

● АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

# РАШЭННЕ МІНГАРСАВЕТА

## АД 29 МАЯ 1993 г. № 321, ПРЫНЯТАЕ НА 12-Й СЕСІІ XXI СКЛІКАННЯ

### АБ ПАРАДКУ І МЕЖАХ РАСПАРАДЖЭННЯ ДЗЯРЖАЎНАЙ МАЁМАСЦЮ, ЯКАЯ ЗНАХОДЗІЦЦА Ў КАМУНАЛЬНАЙ УЛАСНАСЦІ г.МІНСКА

У мэтах больш эфектыўнага выкарыстання камунальнай уласнасці г.Мінска Мінскі гарадскі Савет народных дэпутатаў ВЫРАШЫЎ:

1. Усім прадпрыемствам, арганізацыям і ўстановам, якія знаходзяцца ў камунальнай уласнасці г.Мінска, прадастаўляецца права ўладання і карыстання замацаванай за імі маёмасцю.

2. У адпаведнасці з артыкулам 28 Закона «Аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы ў Рэспубліцы Беларусь» дэлегаваць выканкаму гарсавета, яго камітэтам, а таксама прадпрыемствам, арганізацыям і ўстановам, якія адносяцца да камунальнай уласнасці г.Мінска, права распараджацца камунальнай уласнасцю г.Мінска ў выпадку, на ўмовах і ў межах, прадугледжаных Часовым палажэннем аб парадку і межах распараджэння дзяржаўнай маёмасцю, якая знаходзіцца ў камунальнай уласнасці г.Мінска.

3. Зацвердзіць Часовае палажэнне аб парадку і межах распараджэння дзяржаўнай маёмасцю, якая знаходзіцца ў камунальнай уласнасці г.Мінска (дадатак № 1).

4. Устанавіць, што раней прынятыя рашэнні Мінгарсавета па пытаннях распараджэння камунальнай уласнасцю г.Мінска прымяняюцца ў той меры, у якой яны не супярэчаць гэтаму рашэнню.

5. Здзелкі, здзяйсняемыя ў парушэнне ўказанага парадку, прызнаюцца несапраўднымі.

6. Выканкаму гарсавета ў тэрмін да 1 верасня 1993 г.:

6.1. Правесці перазамацаванне аб'ектаў камунальнай уласнасці паміж суб'ектамі кіравання гарадской гаспадаркай у адпаведнасці з функцыянальным прызначэннем гэтых аб'ектаў.

6.2. Сумесна з гарадскім упраўленнем статыстыкі арганізаваць улік адчужанай і адчужаемай камунальнай уласнасці г.Мінска.

6.3. Прывесці ўсе рашэнні і заключаныя дагаворы, якія датычацца пытанняў распараджэння камунальнай уласнасцю г.Мінска, у адпаведнасць з п.2 гэтага рашэння, за выключэннем прынятых і заключаных у адпаведнасці з рашэннем 3-й сесіі Мінгарсавета XXI склікання № 129 ад 17.04.91 г. «Аб Часовым палажэнні і канцэпцыі пераходу гандлю, грамадскага харчавання, гараграпрома і бытавога абслугоўвання насельніцтва г.Мінска да рыначнай эканомікі».

6.4. Распрацаваць і зацвердзіць парадак падачы і разгляду дакументаў, звязаных з вырашэннем пытанняў, вызначаных Часовым палажэннем аб парадку і межах распараджэння дзяржаўнай маёмасцю, якая знаходзіцца ў камунальнай уласнасці г.Мінска.

7. Кантроль за выкананнем дадзенага рашэння ўскладаецца на адпаведныя пастаянныя дэпутацкія камісіі.

8. Рашэнне ўводзіцца ў дзеянне з моманту апублікавання.

9. Рашэнне апублікаваць у сродках масавай інфармацыі.

Старшыня гарсавета
А.ГЕРАСІМЕНКА

Дадатак № 1

### ЧАСОВАЕ ПАЛАЖЭННЕ АБ ПАРАДКУ І МЕЖАХ РАСПАРАДЖЭННЯ ДЗЯРЖАЎНАЙ МАЁМАСЦЮ, ЯКАЯ ЗНАХОДЗІЦЦА Ў КАМУНАЛЬНАЙ УЛАСНАСЦІ г.МІНСКА

*І. Агульныя палажэнні*

1.1. Сапраўднае Палажэнне вызначае парадак і межы распараджэння дзяржаўнай маёмасцю, якая знаходзіцца ў камунальнай уласнасці г.Мінска, і абавязковае для выканання ўсімі суб'ектамі гаспадарання з камунальнай маёмасцю.

1.2. Органам, якія ў адпаведнасці з гэтым Палажэннем дэлегаваны правы па распараджэнні камунальнай уласнасцю г.Мінска, забараняецца перадаваць дадзеныя правы іншым юрыдычным асобам і органам без згоды сесіі Мінгарсавета.

1.3. Устаноўленыя ў адпаведнасці з гэтым Палажэннем правы па распараджэнні камунальнай уласнасцю г.Мінска павінны быць выкладзены ў статутах (палажэннях) прадпрыемстваў, арганізацый і устаноў, кантрактах са службовымі асобамі і ў іншых дакументах, якія датычацца пытанняў выкарыстання камунальнай уласнасці г.Мінска.

1.4. Парушэнне суб'ектам гаспадарання з камунальнай уласнасцю патрабаванняў, устаноўленых гэтым Палажэннем, служыць падставай для скасавання дагавору, што датычыцца дадзенай маёмасці, з кампенсацыяй нанесенага ўрону і скасавання кантракту з вінаватай службовай асобай.

*ІІ. Стварэнне, рэарганізацыя і ліквідацыя прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў*

2.1. Права стварэння, рэарганізацыі і ліквідацыі прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў, якія адносяцца да камунальнай уласнасці г.Мінска без змянення формы ўласнасці, прадастаўляецца:

2.1.1. Выканкаму гарсавета — ва ўсіх выпадках.

2.1.2. Камітэтам выканкама гарсавета — у адпаведнасці з палажэннямі аб іх.

2.1.3. Прадпрыемствам, арганізацыям і ўстановам, якія адносяцца да камунальнай уласнасці г.Мінска — са згоды адпаведнага камітэта выканкама гарсавета, а пры адсутнасці іх — па распараджэнні старшыні Мінгарсавета або першага намесніка старшыні выканкама гарсавета.

2.2. Права выступаць заснавальнікам прадпрыемстваў і арганізацый, якія не адносяцца да камунальнай уласнасці г.Мінска, або ўваходзіць у іх склад з унясеннем долі камунальнай уласнасці г.Мінска ў іх статутны фонд прадастаўляецца:

2.2.1. Прадпрыемствам, арганізацыям і ўстановам, якія адносяцца да камунальнай уласнасці г.Мінска — па рашэнні выканкама гарсавета па ўзгадненні з адпаведнай пастаяннай дэпутацкай камісіяй.

*ІІІ. Адчужэнне камунальнай уласнасці г.Мінска*

3.1. Адчужэнне (продаж, абмен, бязвыплатная перадача і інш.) маёмасці, якая з'яўляецца камунальнай уласнасцю г.Мінска, са зменай уласніка праводзіцца прадпрыемствамі, арганізацыямі і ўстановамі ў наступным парадку:

3.1.1. Пералік будынкаў, збудаванняў, прадпрыемстваў камунальнай уласнасці г. Мінска, якія падлягаюць адчужэнню, вызначаецца дадаткамі да Праграмы прыватызацыі, зацверджанай сесіяй гарсавета.

3.1.2. Аб'екты незавершанага будаўніцтва — па рашэнні выканкама гарсавета па ўзгадненні з адпаведнай пастаяннай дэпутацкай камісіяй і заключэнні экспертнай камісіі Мінгарсавета па горадабудаўніцтве.

3.1.3. Асноўнае тэхналагічнае абсталяванне і транспартныя сродкі — па рашэнні камітэта выканкама гарсавета, а пры іх адсутнасці — па распараджэнні старшыні Мінгарсавета або першага намесніка старшыні выканкама гарсавета.

3.1.4. Маёмасць, не пералічаная ў п.п. 3.1.1., 3.1.2., 3.1.3. гэтага Палажэння — самастойна.

*IV. Продаж, абмен і бязвыплатная перадача камунальнай маёмасці г.Мінска без змены ўласніка*

4.1. Продаж, абмен і бязвыплатная перадача камунальнай уласнасці г.Мінска без змены ўласніка праводзіцца прадпрыемствамі, арганізацыямі і ўстановамі ў наступным парадку:

4.1.1. Будынкі, збудаванні і аб'екты незавершанага будаўніцтва са змяненнем мэтавага прызначэння — па рашэнні выканкама гарсавета, па ўзгадненні з адпаведнай пастаяннай дэпутацкай камісіяй і заключэннем экспертнай камісіі Мінгарсавета па горадабудаўніцтве.

4.1.2. Будынкі, збудаванні і аб'екты незавершанага будаўніцтва без змянення мэтавага прызначэння — па рашэнні камітэтаў гарвыканкама.

4.1.3. Асноўнае тэхналагічнае абсталяванне і транспартныя сродкі — са згоды адпаведнага камітэта выканкама гарсавета, а пры адсутнасці іх — па распараджэнні старшыні Мінгарсавета або першага намесніка старшыні выканкама гарсавета.

4.1.4. Маёмасць, не пералічаная ў п.п. 4.1.1., 4.1.2. і 4.1.3. гэтага Палажэння — самастойна.

*V. Здача ў арэнду*

5.1. Здача ў арэнду аб'ектаў камунальнай уласнасці г.Мінска праводзіцца прадпрыемствамі, арганізацыямі і ўстановамі ў наступным парадку:

5.1.1. Будынкі і нежылыя памяшканні агульнай плошчай звыш 100 кв. м і маёмасныя комплексы (памяшканні, будынкі і збудаванні з размешчаным у іх абсталяваннем; звязанае тэхналагічным працэсам абсталяванне, размешчанае на абмежаваных плошчах, і да таго падобнае) — па рашэнні выканкама гарсавета пасля ўзгаднення з адпаведнымі пастаяннымі дэпутацкімі камісіямі і з ўлікам меркаванняў райвыканкамаў.

5.1.2. Нежылыя памяшканні агульнай плошчай да 100 кв. м уключна — па рашэнні выканаўчых камітэтаў райсаветаў пасля ўзгаднення з адпаведным камітэтам выканкама гарсавета.

5.1.3. Маёмасць, не пералічаная ў п.п. 5.1.1. і 5.1.2. гэтага Палажэння і коштам звыш 500 мінімальных месячных зарплат — са згоды адпаведнага камітэта выканкама гарсавета, а пры адсутнасці іх — па распараджэнні старшыні Мінгарсавета або першага намесніка старшыні выканкама гарсавета.

5.1.4. Маёмасць, не пералічаная ў п.п. 5.1.1., 5.1.2., 5.1.3. гэтага Палажэння і коштам да 500 мінімальных месячных зарплат уключна — самастойна.

5.2. Здача ў арэнду аб'ектаў камунальнай уласнасці г.Мінска з перадачай іх на баланс арандатара праводзіцца па рашэнні выканкама гарсавета незалежна ад віду і кошту маёмасці, здаваемай у арэнду.

Арэндадаўцам у дадзеным выпадку выступаюць адпаведныя камітэты або выканкам гарсавета.

5.3. Здача ў субарэнду камунальнай уласнасці г.Мінска праводзіцца арандатарам са згоды арэндадаўцы.

*VI. Спісанне з балансу*

6.1. Асноўныя сродкі, якія з'яўляюцца камунальнай уласнасцю г.Мінска, спісваюцца з балансу прадпрыемствамі, арганізацыямі і ўстановамі ў наступным парадку:

6.1.1. Будынкі і збудаванні незалежна ад балансавага кошту і ступені зносу — па рашэнні выканкама гарсавета.

6.1.2. Транспартныя сродкі незалежна ад балансавага кошту і ступені зносу, асноўнае тэхналагічнае абсталяванне з налічанай сумай зносу да 70% незалежна ад балансавага кошту і іншая маёмасць балансавага кошту звыш 500 мінімальных месячных зарплат — са згоды адпаведнага камітэта выканкама гарсавета, а пры адсутнасці іх — па распараджэнні старшыні Мінгарсавета або першага намесніка старшыні выканкама гарсавета.

6.1.3. Маёмасць, не пералічаная ў п.п.6.1.1. і 6.1.2. гэтага Палажэння — самастойна.

● ЗАВЕТНЫЙ УГОЛОК

# О ЧЕМ ПОЮТ СОЛОВЬИ

АЛЕКСАНДР МАЦКЕВИЧ. Фото ВЯЧЕСЛАВА КУБЕНКЕВИЧА.



Лошица... Это слово известно многим. В довоенные да и в первые послевоенные годы это урочище по тем временам считалось дальней юго-западной окраиной белорусской столицы. Его именем назван теперь уже знаменитый парк. Лошицкий...

Кто хоть однажды прошелся по липовой аллее, кстати, единственной в Минске, того никогда не покинет желание прийти сюда вновь и вновь, чтобы подышать ароматом пышной зелени, полюбоваться могучими липами, которым за двести и триста лет. О многом рассказали бы они, если бы могли говорить. На многие размышления наводит эта старая аллея.

В тот день я встретил здесь группу школьников, с ножовками, с топориками. Оказалось, это ученики 89-й средней школы, что по улице Серова, пришли сюда делать санитарную чистку: собирать и складывать в кучи хворост, срезать засохшие сучья.

А порядок здесь наводить действительно надо. Вот одна из лип, видимо, не очень давно рухнула, подмяв под себя проволочные ограждения, кустарник. Так и лежит до сих пор сиротливо. Ребятам из той же 89-й школы не под силу убрать вывернутый с корнем ствол. У взрослых же руки пока не дошли до умершего дерева... Впрочем, как и до лопухов в человеческий рост, до целого поля одуванчиков, что вместе с другими дикорастущими травами засоряют парк, мешают развитию деревьев, в т.ч. и фруктовых: яблонь, груш, вишен. А ведь пока еще плодоносят... Кстати, общая площадь, занимаемая садом, составляет примерно 24 гектара.

Когда идешь по аллее, то в нескольких местах на проволочных ограждениях то и дело появляется вывеска — «Производственно-аграрная фирма «Тэвис» с угрожающими словами на ней: «Вход и въезд посторонним воспрещен!». Странное название фирмы, и еще более странно читать такое предупреждение не где-нибудь вблизи военного объекта, а в парке, где каждый человек волен провести свой досуг. Однако мне хотелось поговорить с директором Лошицкого парка и, обойдя стороной фирму «Тэвис», с помощью реставраторов старой усадьбы я все же разыскал его с косой в руках. Вместе с подростками он скашивал траву. Евгений Георгиевич Терехов сравнительно молод. По образованию физик. Большой эрудит. Неоднократно бывал за границей. Хорошо знает Нидерланды и народ этой маленькой страны. Ко всему он еще и орнитолог. Удивительна осведомленность этого специалиста о птицах, их повадках. А пернатых в парке насчитывается около 60 видов.

...Мы сидим на бревнышке-скамейке, и Евгений Георгиевич посвящает меня в историю парка, говорит о его проблемах. Иногда замолкает, чтобы вместе со мной послушать изумительные соловьиные трели. Нет, кажется, большего наслаждения, чем слушать их.

Итак, насчет истории. В 1870 году помещик Любанский перестроил усадьбу, и в таком виде она дошла до наших дней. Деревянному флигелю около ста лет. Столько же в парке пород деревьев и кустарников. С конца прошлого века здесь работало акционерное общество, которое занималось внедрением передовых методов в сельском хозяйстве. В 1925 году под руководством Н.И.Вавилова был открыт филиал Московского института растениеводства. До 1965 года парк содержался в образцовом состоянии, а затем он начал приходить в упадок. Ничего, к сожалению, не изменилось и по сей день. Более того, парк, этот прекрасный уголок живой природы, «разрывают» на части. Та же фирма «Тэвис» захватила земли и занимается торгово-закупочной деятельностью, прикрываясь вывеской «производственно-аграрная». Сюда непрерывно идут машины, превращая аллею в проезжую часть, загрязняя воздух, отпугивая птиц. В ответ на мое замечание, что Лошицкий парк с его зарослями, сорняками напоминает скорее обыкновенный лес, Е.Г.Терехов объяснил, что в штате у него — 20 человек и без помощи государства, общественности, проблемы, стоящие перед Лошицей, не решить. Он рассказал также о том, что на уровне Министерства культуры Республики Беларусь и Минского горисполкома рассматривается проект реставрации Лошицкого парка. В нем предусмотрено строительство пешеходных дорожек, установка скамеек и беседок, восстановление красной мельницы и часовни. За пределами парка планируется возведение учебного комплекса, музея, лицея, школы садового искусства. Некоторые строительные материалы уже завезены. На территории парка будут выращиваться розы, сирень, жасмин и другие сорта цветов. В связи с этим планируется открыть детский цветочный магазин. В нем школьники будут составлять и продавать букеты. На восстановление и развитие заповедника потребуется по предварительным подсчетам более 1 млрд.рублей.

...У входа в парк на покосившемся и выцветшем от времени щитке рукой неопытного художника написаны такие слова: «Лошицкий учебно-парковый комплекс — памятник архитектуры садово-паркового искусства XIX века. Взят под охрану государства. Здесь под руководством великого сына человечества Н.И.Вавилова в 1925 г. были заложены основы научной селекции в Белоруссии. Убедительно просим посетителей не наносить ущерба природе».

Помните об этом, уважаемые читатели. Приходите в Лошицкий парк, послушайте соловьев и попробуйте понять, о чем они поют, что их тревожит...

**НА СНИМКАХ:** излучина реки Свислочь; бывшая помещичья усадьба.



